Сёньня

Сяргей ДУБАВЕЦ

# Грамадзкае адзінства

Калі ствараецца нацыянальная дзяржава, першае і самае істотнае наступства, якога мы чакаем ад гэтага акту, — грамадзкае адзінства. Складваецца нацыя і ўтварае ўласную дзяржаву як аснову свайго парадку жыцьця. Толькі тады можна гаварыць пра рэформы, дабрабыт, культуру... Зьнешнія прыкметы грамадзкага адзінства — круглыя сталы, кааліцыйныя ўрады, рэфэрэндумы, выбары-перавыбары, у якіх урэшце намацваецца аптымальная і адэкватная гэтай зямлі і гэтаму народу сыстэма ўлады. Дорага? Але яшчэ нідзе і ніколі не было інакш. Інакш — новастворанныя нацыянальныя дзяржавы проста пераставалі існаваць.

Вядома, кожны народ марыць пра свайго збаўцу, які «прыйдзе і навядзе парадак». Але ў жыцьці так не бывае. І гэта ведае кожная жанчына, якая да замуства марыла пра свайго прынца. Іванька-дурань на печы прыяжджае цараваць толькі ў казках. У жыцьці ўсё нашмат складаней.

У Беларусі нацыянальная дзяржава не была вынікам пераўтварэньня насельніцтва ў нацыю. Таму ў Беларусі няма грамадзкага адзінства. Паміж вясковым чалавекам і доктарам, які стаіць перад Домам ураду з плякатам «Спасете медицину — спасетесь сами!», паміж нацыянальным адраджэнцам і намэнклятурай — ня тое каб варожасьць, а — пустата. На вяршыні ўлады апынуўся чалавек, у якога і блізка няма памкненьня каго-небудзь зразумець. Ён ужо «усё зразумеў», і яму гэтага хапае. Вось зьезьдзіў у Кітай, там, кажуць, даюць добрыя мадэлі разьвіцьця для новых краін... Вось толькі зьезьдзіць у Расею, выступіць у Думе, і там за беларускую незалежнасьць яму дадуць дыхтоўную рускую печку, усё ж вернецца ня пешшу...

Прэзыдэнт, які ў любой краіне мусіць быць найперш увасабленьнем грамадзкага адзінства, у нас стаў увасабленьнем гэтай самай пустаты. Прычым увасабленьнем ідэальным. Шалёная ўнутраная энэргія Лукашэнкі — усё, што ў яго ёсьць і што не дазваляе раіцца, сумнявацца ў сваёй правільнасьці, нават проста слухаць іншага, мець сяброў і «каманду».

Лукашэнку не назавеш чалавекам шырокіх поглядаў, які з павагай ставіўся б да інтэлекту іншых і вышэй за ўсё цаніў грамадзкае паразуменьне. Усё якраз наадварот. Гэта значыць, што менавіта такі тып мысьленьня, такі стэрэатып пераважае сёньня ў насельніцтва Беларусі, якое галасавала за гэтага прэзыдэнта. Розум, здольнасьць згуртаваць вакол сябе лепшых людзей, людзкасьць — для кіраўніка калгаснага тыпу заўсёды лічыліся недарэчнай абузай.

Пустата на месцы грамадзкага паразуменьня і адзінства значыць, што гэтыя два фактары ў нас — незразуметая і незапатрабаваная каштоўнасьць. Як у той показцы: «Што тут думаць, трэсьці трэба!» Разам з новым кіраўніком гэтая пустата, якая засталася нам у спадчыну ад колішняга часу, становіцца моднай. Прычым на розных узроўнях. Прэзыдэнт ускосна сьцьвярджае, што паразуменьне ў грамадзтве, паміж сацыяльнымі групамі і партыямі, у працоўным калектыве, у сям'і — нічога ня значыць. Права за тым, хто найбольш энэргічна крычыць.

Адчуўшы гэта, ажывілася старая намэнклятура. Прэзыдэнт сказаў: «Пры мне зямлю прадаваць ня будзем!» І поўная заля чыноўнікаў учыніла яму авацыю. Ня думаючы — што ён сказаў і нашто. Галоўнае — энэргічна і гучна. Сучасныя «дзелавыя людзі», якія «умеюць жыць», таксама выдатна абыходзяцца без дапамогі сваёй «верхняй канечнасьці». А вобраз інтэлігента пачаў трывала асацыявацца з плачам і стогнам аб нядолі і папрашайніцтвам: падайце на творчасьць!

Сёньня да грамадзкага адзінства ня толькі далёка, але і нішто да яго не вядзе. Гэта значыць, што першае і самае істотнае наступства стварэньня незалежнай дзяржавы ў нас не надышло, і таму сама дзяржава ўсё яшчэ застаецца пад пытаньнем. А гэта паказвае на недавершанасьць нацыі. Магчыма, першыя поступы ў гэтай справе стануць заўважныя тады, калі ў рэйтынгах нашай недадушанай статыстыкі ў Лукашэнкі зьявіцца рэальная альтэрнатыва. Пакуль жа «энэргічны чалавек» усё яшчэ апярэджвае ўсіх астатніх.

# Дэмакратычны альянс зьбіраецца перамагчы на выбарах

**У пятніцу 20 студзеня ў менскай штаб-кватэры БНФ лідары чатырох партыяў (Народны Фронт, Сацыял-дэмакратычная Грамада, Хрысьціянска-дэмакратычная і Сялянская партыі), якія ўтварылі перадвыбарчы блёк, правялі сумесную прэс-канфэрэнцыю.**

Было заяўлена, што дэмакратычны альянс палітычных сілаў мае мэту стварыць дзеяздольны парлямант, які будзе кіравацца прынцыпамі абвешчанай перадвыбарчай Дэклярацыі (яна апублікаваная ў СВАБОДЗЕ, №3 за 1995 г.).

Што датычыць стварэньня блёку партыяў так званай цэнтрысцкай арыентацыі, то, на думку З.Пазьняка, гэта робіцца з адзінай мэтаю — каб заблытаць грамадзкую думку. «Стварыць яшчэ адзін дэмакратычны блёк на Беларусі немагчыма, бо няма з каго ствараць, — заявіў З.Пазьняк. — Але прымаюцца нейкія дэклярацыі, дзе пішуцца лёзунгі з заклікамі аб'яднаць нацыю, захаваць грамадзкі мір, кансалідаваць сілы і г.д. Гэта самыя што ні ёсьць рэакцыйныя камуністычныя лёзунгі, накіраваныя супраць дэмакратыі».

На прэс-канфэрэнцыі таксама адзначалася, што цяпер у краіне стварылася небясьпечная сытуацыя, якая характарызуецца непавагай да Канстытуцыі і да законаў з боку рэжыму Лукашэнкі. «Кожны дзень улада парушае законы, якія сама прыняла, — сказаў З.Пазьняк. — Але мы будзем трымацца сваёй ранейшай пазыцыі: строга выконваць законы. Якая б ні была Канстытуцыя, яе трэба трымацца».

На разьвітаньне сп. Пазьняк паабяцаў журналістам, што ў выпадку перамогі дэмакратычных сілаў неадкладна будзе ўсталяваная свабода друку, «бо гэта аснова дэмакратычнай дзяржавы. Бяз гэтага ня будзе ні дэмакратыі, ні рэформаў».

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Нацыянальная партыя заяўляе пра сябе

**У суботу 21 студзеня ў менскім Доме літаратара адбылася прэзэнтацыя Беларускай нацыянальнай партыі (БНП).**

Акрамя журналістаў, на прэзэнтацыі прысутнічалі прадстаўнікі іншых дэмакратычных партыяў.

Старшыня патрыятычнай арганізацыі «Нацыянальнае дзеяньне» П.Рагойша і старшыня Партыі свабоды сп.Высоцкі прысутнічалі на прэзэнтацыі ўжо як гаспадары: нядаўна вышэй памянёная арганізацыі ўвайшлі ў БНП ужо ў якасьці фракцыяў.

Старшыня Нацыянальнай партыі спадар Анатоль Астапенка выказаў упэўненасьць у вялікай будучыні сваёй арганізацыі, бо, на ягоную думку, менавіта нацыянальная ідэя павінна стаць ідэалягічным падмуркам беларускай дзяржавы. Намесьнік старшыні БНП Аляксей Бураўкін адзначыў, што хоць цяпер Беларуская нацыянальная партыя выразна правай арыентацыі, але ў будучым яна стане цэнтрысцкай партыяй, бо нацыянальная ідэя мусіць быць агульнай для ўсіх — і правых, і левых.

Мастацкую частку імпрэзы з посьпехам забясьпечыў фальклёрны гурт «Грамніцы».

**Пятро ЗАВАЛА**

# Прафсаюзы будуць пратэставаць

**Фэдэрацыя прафсаюзаў Беларусі зьбіраецца правесьці ў чацьвер 26 студзеня ў Менску марш пратэсту і мітынг на пляцы Незалежнасьці.**

Арганізатары мяркуюць, што ў акцыі прымуць удзел больш за 20 тыс. чалавек. Асноўнае патрабаваньне мітынгоўшчыкаў — павелічэньне заработнай платы.

**На здымку: галоўны абаронца правоў працоўных Уладзімер Ганчарык — старшыня Фэдэрацыі прафсаюзаў.**

# А тым часам у Ваўкавыску...

Настаўнікі Ваўкавыскай сярэдняй школы №1 перасталі давяраць «афіцыйнаму» прафсаюзу і стварылі сваю арганізацыю Свабоднага прафсаюзу. У яе ўвайшлі больш за 100 чалавек.

**В.Я.**

# Хайль, Лукашэнка!

Палітычнае жыцьцё Беларусі ўсё больш пачынае разгортвацца па расейскім сцэнары

Возьмем хоць бы такую далікатную сфэру, як прызначэньні на пасады.

Ня так даўно намесьнікам міністра транспарту Беларусі быў прызначаны Рыгор Фёдараў, былы начальнік дэпартаманту грамадзянскай авіяцыі. Гэты факт, як паведамляюць дасьведчаныя крыніцы, ашаломіў нават самога міністра транспарту А.Лукашова. Рэч у тым, што была зусім іншая кандыдатура. Нібыта нават падрыхтавалі ўказ прэзыдэнта, але ж той яго ніяк не падпісваў. Некалькі разоў дакументы на гэтага намесьніка «губляла» канцылярыя Лукашэнкі. Нарэшце ўсё скончылася прызначэньнем Р.Фёдарава.

Што датычыць мінулага жыцьця новага намесьніка, то тут знаходзім вельмі цікавы факт. У другой палове 1991 г. была распачатая пракурорская праверка зьнешнеэканамічнай дзейнасьці грамадзянскай авіяцыі. Матар'ялы той праверкі давалі ўсе падставы для прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці сп.Фёдарава (ён тады быў начальнікам Беларускай управы грамадзянскай авіяцыі) за шматлікія злоўжываньні з валютай. Аднак у апошнія месяцы жыцьця тагачаснага Генэральнага пракурора М.Ігнатовіча матар'ялы праверкі таямніча «прыкрылі». Ходзяць чуткі, што іх нават зьнішчылі.

Малаверагодна, каб галоўны «барацьбіт» з карупцыяй Лукашэнка ня ведаў гэтай гісторыі. Атрымліваецца, што прэзыдэнт сьвядома атачае сябе адданымі «сябрамі», якія нейкім чынам «вісяць на кручку» і па гэтай прычыне праяўляюць адданасьць «патрону».

Дакладна вядома таксама, што прызначэньне Фёдарава адбылося праз Івана Ціцянкова — кіраўніка справамі прэзыдэнта. Што дае падставу задаць пытаньне: хто кіруе краінай — Лукашэнка ці ягоны «завхоз»? Кажуць, што міністар Лукашоў выказаўся катэгарычна супраць кандыдатуры Фёдарава, але Ціцянкоў «затупаў нагамі». І прызначэньне адбылося.

Такім чынам, адміністрацыя прэзыдэнта ўсё больш упэўнена паўстае над урадам, які становіцца падкантрольны нават прэзыдэнцкаму «завхозу».

Яшчэ адна нядаўняя падзея — падпісаньне сакрэтнага (ну а як жа!) ўказу аб стварэньні Управы аховы прэзыдэнта — гаворыць за выключнае падабенства нашага разьвіцьця падзей з маскоўскім.

Маштабы, праўда, ня тыя. Лукашэнкава ахова будзе налічваць каля 300 «вояў». Пад кіраўніцтвам жа Барсукова і Каржакова (людзі, якія стаяць на чале аховы Ельцына) — 22—25 тысяч чалавек. І бюджэт у іх адпаведны — недзе 600 млрд. рублёў, прычым на абгрунтаваньне такой сумы ім дастаткова 2—3 радкоў тэксту. Імаверна, тое ж будзе і ў нас.

Ці трэба, каб аднаго чалавека ахоўвалі некалькі соцень, — пытаньне чыста рытарычнае. Дарэчы, целаахоўнікі Ельцына займаюцца ўсім, што стукне ў галаву. Напрыклад, сочаць за «патэнцыйна небясьпечнымі» людзьмі, праслухоўваюць тэлефоны і г.д. Ці ня гэтак і ў нас? Пры Лукашэнку ствараецца спэцыяльная элітная гвардыя. Па аналёгіі са «старэйшым братам», Барысам Мікалаевічам. Ці Садамам Хусэйнам. Выразная прыкмета таго, што «трон» пачаў хістацца — і надзея толькі на штыкі. Гэта значыць — ідзе дыктатура.

Ні ў эканоміцы, ні ў палітыцы Лукашэнка за паўгода ня здолеў зрабіць нічога прыкметнага, абурэньне расьце, рэйтынг ідзе долу. Калі далей праводзіць паралелі з Расеяй, то прагноз напрошваецца сам па сабе: Лукашэнку, верагодна, у самы бліжэйшы час (выбары на парозе!) спатрэбіцца свая «маленькая Чачня». Магчыма, сцэнар ужо ёсьць ці «прапрацоўваецца» ў бліжэйшым атачэньні. Пад яго і спатрэбілася «гвардыя», не зьвязаная хімерамі кшталту закону ці сумленьня.

Сапраўды зьдзіўляе аднатыпнасьць расейскай і беларускай сытуацыі. Экспэрты лічаць, што вайна ў Чачні спатрэбілася Ельцыну, каб «закруціць гайкі» і не дапусьціць выбараў — урэшце папросту захаваць уладу. Мэта Лукашэнкі тая самая: выйграць выбары ў парлямант і ўмацаваць праз гэта сваю ўладу. І мэтады аднолькавыя — праз сілу.

Праўда, нашаму «шалёнаму бацьку» трэба сьпяшацца: да парляманкіх выбараў засталося зусім няшмат часу. Таму трэба чакаць нечага экстраардынарнага, нейкай хітрай правакацыі, якая прымусіла б Беларусь скалануцца і прыціснуцца да пляча «татулі».

Нейкім іншым чынам зьмяніць становішча на сваю карысьць Лукашэнка проста ня зможа. Грошай, каб падкупіць некаторыя групы насельніцтва, як гэта таленавіта (але беспасьпяхова) рабіў Вячаслаў Францавіч, у прэзыдэнта няма.

Не магу ўтрымацца ад цытаты: «Дзяржава трымаецца не штыком, а духам; не тэрорам, а аўтарытэтам улады; не пагрозамі і пакараньнямі, а свабоднай ляяльнасьцю народа» (Іван Ільін).

Так што прыміце нашыя... і інш., Аляксандар Рыгоравіч!

**Андрэй СЯРЖАН**

# Расейцы пакідаюць чорныя сьляды на беларускай зямлі

**Расейскія войскі, якія выводзяцца з тэрыторыі іншых дзяржаваў, пакідаюць пасьля сябе зьнявечаную зямлю. Так было ў Нямеччыне, Польшчы, Чэхіі, Эстоніі... Тое самае мы назіраем у Беларусі.**

Аднак, у адрозьненьне ад іншых краінаў, «рахманыя» беларусы чамусьці не патрабуюць, каб расейская армія належным чынам прыбрала пасьля сябе. На нарадзе, якая нядаўна адбылася ў міністэрстве экалёгіі Беларусі, высьветлілася, што экалягічная частка пагадненьня аб умовах вываду расейскіх войскаў не выконваецца. Расейскі бок, які абавязаны аднавіць прыроднае асяродзьдзе на тэрыторыі базаў, ня робіць гэтага. А ня робіць таму, што беларускі бок не патрабуе.

Так было, да прыкладу, у Паставах. Адтуль выводзілася расейская ракетная дывізія. Раённы інспэктар аховы прыроды прыйшоў на базу і паказаў пальцам, дзе трэба «аднавіць прыроднае асяродзьдзе» (засыпаць кар'ер і дзьве нафтавыя плямы), а потым... падпісаў паперку, што ўсё о'кей. Невядома, што атрымаў за гэта інспэктар, але для нашай дзяржавы падобныя рэчы абыходзяцца надта дорага, бо аднаўляць тэрыторыю мы вымушаныя будзем за свае грошы.

Паводле ацэнак амэрыканскіх спэцыялістаў, аднаўленьне прыроднага асяродзьдзя на тэрыторыі аднаго такога аб'екту каштуе прыблізна 50 мільёнаў даляраў. На базе ў Паставах амэрыканцы прадэманстравалі, наколькі забруджаная зямля: на глыбіні двух мэтраў глеба загаралася ад звычайнай запалкі!

Расейскія войскі пакінулі вайсковую базу ў Пружанскім раёне.

Яшчэ адзін факт невыкананьня пагадненьня — продаж расейскімі вайскоўцамі ракетнага паліва на тэрыторыі Беларусі. Паводле дамовы, гэтыя высокатаксычныя рэчывы павінны вывозіцца ў Расею. Што мы бачым? Газэты нядаўна абышло паведамленьне: пастаўскія кацельні працуюць на ракетным паліве. Як сьведчыць раённы пракурор, у горад яго было завезена каля 300 тон. «Адназначна прызнана, што гэтае паліва зьяўляецца моцным атрутным рэчывам... Перавозіць яго трэба са спэцаховаю», — кажа пракурор. Тым часам зьяўляецца чарговае паведамленьне: у Маладэчанскім раёне на зьверафэрме таксама выкарыстоўваюць у кацельні гэтую атруту. Газэта СВАБОДА мае зьвесткі, што ракетнае паліва купілі і калгасы Мядзельскага раёну... Можна меркаваць, што расейскія вайскоўцы распрадалі ў Беларусі тысячы тонаў небясьпечнага паліва.

Відавочна, што беларускія ўлады абсалютна не кантралююць вывад расейскіх войскаў. Гаворка ідзе пра 70 ваенных базаў, адкуль расейцы ўжо сышлі або павінны будуць сысьці на працягу двух бліжэйшых гадоў. Аднак у нас нават няма мэтодыкі, каб ацаніць страты, нанесеныя прыроднаму асяродзьдзю. Чыноўнікі спахапіліся і пачалі ліхаманкава выпрацоўваць нейкі дакумант. Але нашто займацца вынаходніцтвам вэласіпэда, калі падобныя мэтодыкі ёсьць у нашых суседзяў, напрыклад, у літоўцаў, палякаў, маюць іх таксама немцы, чэхі... Іх можна без праблем атрымаць, адаптаваць да нашых умоваў і працаваць па іх. Тым больш, што і расейскі бок гэтыя мэтодыкі добра ведае. Іншая рэч, ці пагодзіцца Масква, каб гэтыя даволі жорсткія крытэрыі прымяняліся ў Беларусі. Але ж палякі, эстонцы і ўсе астатнія дамагліся, а мы прывыклі глядзець расейцам у рот.

І апошняе. Беларускае міністэрства экалёгіі чамусьці вырашыла, што экспэртызу на расейскіх базах будзе праводзіць камэрцыйная фірма «Экомир», менавіта зь ёю павінна заключаць дамовы і расплочвацца расейскае камандаваньне. У такім выпадку незразумела, нашто ж у нас існуюць адпаведныя ведамствы. Зрэшты, ва ўсёй гэтай гісторыі з вывадам расейскіх войскаў безьліч цьмяных пытаньняў.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Чакаюцца высокія сустрэчы

**Міністэрства замежных справаў Беларусі паведаміла, што ў бліжэйшыя дні адбудзецца сустрэча прэм'ер-міністраў Латвіі і Беларусі.**

А ў пачатку лютага павінны адбыцца перамовы прэзыдэнтаў Літвы і Беларусі. Чакаецца, што А.Лукашэнка і А.Бразаўскас падпішуць шэраг сумесных дакумантаў, у тым ліку Дамову аб супрацоўніцтве і пагадненьне аб дэлімітацыі мяжы.

**СІМ**

## Дзіцячыя малюнкі паедуць у Амстэрдам

**Ларыса Чарніна, выкладчыца амстэрдамскага ўнівэрсытэту, якая неаднаразова прывозіла гуманітарныя грузы і мэдычнае абсталяваньне на Магілёўшчыну, у Менск і Віцебск, атрымала ў цэнтры галяндзкай сталіцы памяшканьне пад мастацкую галерэю.**

Там будуць пастаянна выстаўляцца работы дзяцей з Чарнобыльскай зоны. Пакуль галерэя на рамонце, Чарніна праз Магілёўскі камітэт БНФ «Дзеці Чарнобыля» зьбірае малюнкі для ўдзелу ў конкурсе. Лепшыя ўвойдуць у галерэйны каталёг. Работы навучэнцаў Магілёўскай, а таксама Крычаўскай, Горацкай і Чэрыкаўскай мастацкіх школаў ужо з посьпехам выстаўляліся ў Галяндыі. Цяпер з фондам Чарнінай, які шырока вядомы падтрымкаю таленавітых дзяцей на Беларусі, маюць намер супрацоўнічаць і японцы.

**Зінаіда ЛАРЫНА**

# У Маскве лічаць, што „саюз яшчэ магчымы“

**У маскоўскай «Независимой газете» супрацоўнікі інстытуту геаграфіі Расейскай Акадэміі Навук апублікавалі аналітычны матар'ял пад красамоўным загалоўкам «Беларусь — Расея: саюз пакуль яшчэ магчымы». Друкуем некаторыя вытрымкі з гэтага артыкула.**

«Беларусь займае ключавое становішча ва ўсёй усходнеэўрапейскай геапалітычнай прасторы... Гэтая краіна зьяўляецца вузлавым элемэнтам Балта-Пантыйскага поясу. Такі пояс пасьля мангола-татарскага нашэсьця ўжо аднойчы наглуха адрэзаў паўночна-ўсходнія княствы Старажытнай Русі ад Эўропы, што надоўга вызначыла шляхі іхнага разьвіцьця і запатрабавала ад расейскай дзяржавы надзвычайных высілкаў на прабіваньне «акна ў Эўропу». Гэты пояс некаторыя заходнія палітыкі сёньня часта называюць уласна Ўсходняй Эўропай, лічачы экс-сацыялістычныя краіны Эўропай Цэнтральнай, а Расею — асаблівым сьветам, не Эўропаю і не Азіяй, а краінай, якая ні па сваіх памерах, ні па культурна-цывілізацыйных парамэтрах ніколі ня зможа поўнасьцю ўпісацца ў «аркестар» эўрапейскіх дзяржаваў. Фармаваньне поясу дыстанцыяваных або нават несяброўскіх Расеі дзяржаваў па пэрыметры яе заходніх межаў — ад Балтыі да Ўкраіны — азначала б для Расеі новую ізаляцыю.

Напярэдадні трохгодзьдзя распаду СССР, у пачатку сьнежня 1994 г., аўтары матар'ялу правялі ананімнае тэлефоннае апытаньне жыхароў Гародні — аднаго з самых заходніх абласных цэнтраў былога СССР.

Высьветлілася, што сярод «спрадвечных» жыхароў заходняй Беларусі — беларусаў і палякаў — дамінуе арыентацыя на нядаўна набытую беларускую дзяржаўнасьць, а «прыходцы» — украінцы і расейцы — захоўваюць настроі на страчанае «савецкае грамадзянства». Цікава, што гіпатэтычная пэрспэктыва быць грамадзянінам Польшчы ці аб'яднанай польска-беларускай дзяржавы ня выклікала вялікага энтузіязму нават сярод польскага насельніцтва Гарадзенскай вобласьці: за яе выказаліся гэтулькі ж рэспандэнтаў-палякаў, колькі і за захаваньне статусу грамадзяніна СССР (27,8%), а пераважалі (як і сярод беларусаў) тыя, хто хоча быць грамадзянінам незалежнай Рэспублікі Беларусь (38,9%).

Доля тых, хто выказаўся за ўзнаўленьне СССР у ягонай ранейшай форме, як і варта было чакаць, вышэйшая ў старэйшых узроставых групах. Яна паволі павялічваецца ад 27% у групе 25—40-гадовых да 40% у тых, хто старэйшы за 60 гадоў, але сярод моладзі да 25 гадоў, чыё пасталеньне прыпала ўжо на гады перабудовы, ідэя аднаўленьня СССР вельмі ж непапулярная: яе падтрымалі толькі 6,5%.

Адначасова з ананімным тэлефонным апытаньнем намі было праведзенае (па той самай схеме) анкетаваньне студэнтаў-філёлягаў Гарадзенскага ўнівэрсытэту ва ўзросьце 21—23 гадоў. Як высьветлілася, настроі гэтай спэцыфічнай групы — будучай інтэлектуальнай эліты Беларусі — істотна адрозьніваліся ад выяўленых намі раней.

Сярод іх грамадзянамі незалежнай Беларусі хацелі б быць амаль 80% (сярод усіх апытаных — 46,7%), а «сумуюць» па старым савецкім грамадзянстве толькі 12,8% (37,8% па ўсёй выбарцы). Гатоўнасьць аднавіць колішні СССР сярод студэнтаў выказалі 17% (27,4% у тэлефонным апытаньні). Але сапраўды трывожны сымптом — гэта тое, што сёньняшні разрыў паміж Расеяй і Беларусяй успрымаецца імі як цалкам лягічны, заканамерны. Пры адказе на трэцяе пытаньне («Хто вінаваты?») амаль палова студэнтаў не шукала вінаватых, спаслаўшыся на «аб'ектыўны ход гістарычнага разьвіцьця», што больш як у тры разы перавышае гэты паказчык сярод усяго насельніцтва (15,9%).

Зробім некалькі падагульненьняў.

Нягледзячы на тое, што асноўная большасьць насельніцтва па-ранейшаму смуткуе па часах, калі «усе былі разам», лаючы ўяўных і сапраўдных вінаватых у «развале дзяржавы», прыхільнікі паўторнага аднаўленьня унітарнай дзяржавы паводле вобразу і падабенства СССР сёньня ўжо ў відавочнай меншасьці.

Рашэньне пра аб'яднаньне Беларусі і Расеі ў цесным міждзяржаўным саюзе і выбар формы гэтай інтэграцыі — задачы, вырашэньне якіх сапраўды адкладваць нельга.

Ва ўнутрыпалітычным балянсе сілаў яшчэ да чэрвеня мінулага года Беларусь заставалася ва ўсіх сэнсах «савецкай» рэспублікай: структуры яе заканадаўчай і выканаўчай уладаў усіх узроўняў складіся да распаду Саюза (сёньняшнія Саветы выбраныя яшчэ ў сакавіку 1991 г.). Адпаведна ў беларускіх геапалітычных памкненьнях пераважалі прыярытэты часоў СССР. Па-ранейшаму «на ўсход» глядзіць сёньня і асноўная частка гаспадарчых кіраўнікоў. Перамены ў сталічных калідорах улады, што пачаліся пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у чэрвені 1994 г., пашырыліся ў лістападзе і на ўзровень рэгіёнаў (замена галоўных асобаў выканаўчай улады вобласьцяў). Але галоўнае наперадзе: на выбарах новага парляманту Беларусі зьнешнепалітычныя праграмы кандыдатаў і партыяў, іх стаўленьне да магчымасьці цеснага саюзу з Расеяй стануць найважнейшымі ў барацьбе за галасы выбаршчыкаў.

Галоўная апазыцыйная цяперашняй уладзе партыя — Беларускі Народны Фронт — заклікае ўвайсьці ў кааліцыю зь ёю ўсе рухі, якія гатовы падтрымаць лёзунг «дзяржаўнасьць, дэмакратыя, рынак». Яна небеспасьпяхова імкнецца манапалізаваць ролю галоўнай сілы, якая выступае за абнову і духоўнае адраджэньне краіны, што прываблівае высокаадукаваную частку грамадзтва. Аднак лідар БНФ Зянон Пазьняк шырока вядомы сваімі антырасейскімі выказваньнямі (аж да тэрытарыяльных прэтэнзіяў да Расеі). Так што расстаноўка сілаў у кіраўніцтве Беларусі і зьнешнепалітычныя арыентацыі краіны могуць перамяніцца.

Акрамя таго, час аб'ектыўна працуе супраць ідэі рэінтэграцыі і па іншай прычыне. Падрастае новае пакаленьне, і, як паказала нашае апытаньне, для тых, каму сёньня 20—25 гадоў, адзінства постсавецкіх рэспублікаў увогуле і Расеі зь Беларусяй у прыватнасьці ўжо ня ёсьць бясспрэчнай каштоўнасьцю.

**Уладзімер КОЛАСАЎ**
**Аляксандар КРЫНДАЧ**

## Цяпер у Кучынскага ёсьць шабля

**З дасьведчаных крыніцаў стала вядома, што падчас афіцыйнага візыту прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Кітай некаторыя члены беларускай дэлегацыі у якасьці сувэніраў атрымалі шаблі.**

Першым набыў халодную зброю памочнік прэзыдэнта па асобых даручэньнях Віктар Кучынскі. У свой час ён праславіўся тым, што, трымаючы ў руцэ пісталет, разганяў на віцебскім рынку п'яніцаў: «Імем прэзыдэнта — спыніцца!» Пазьней сп.Кучынскі заявіў на сэсіі Вярхоўнага Савету, што гатовы абараняць прэзыдэнта ня толькі зь пісталетам, але і з гранатамётам у руках. Цяпер ён мае магчымасьць пусьціць у ход і халодную зброю.

*СіМ*

## Наш паравоз «ляціць» у Шклоў

**У Магілёўскім і Асіповіцкім лякаматыўных дэпо ізноў пачалі працаваць паравозы, якія «адпачывалі» на працягу апошніх 30-ці гадоў.**

Зь іх дапамогаю зьбіраюцца ацяпляць жыльлё і вытворчыя памяшканьні. Адзін паравоз магілёўцы перадалі ў арэнду Шклоўскай мэблевай фабрыцы.

**Зінаіда ЛАРЫНА**

## На Траецкім зноў спатканьне

**26 студзеня а 16-й гадзіне ў Менску ў Літаратурным музэі Максіма Багдановіча на Траецкім прадмесьці адбудзецца чарговая вечарына з цыклю «Спатканьні на Траецкім».**

Гэтым разам Віктар Скарабагатаў выканае рамансы на словы М.Багдановіча, музыку да якіх напісаў Ян Тарасэвіч — беластоцкі кампазытар пачатку стагодзьдзя. Сьлявак перадасьць музэю знойдзеныя ім арыгінальныя матар'ялы і фота кампазытара.

**С.К.**



## Вернікі адсуджваюць маёмасьць

**Праваслаўныя вернікі ў Лунінцы блізкія да перамогі ў змаганьні з савецкай уладай.**

Ужо некалькі год вернікі вядуць зацятую барацьбу за тры царкоўныя дамы, якія ў 1952 г. былі адабраныя савецкімі ўладамі. Нядаўна гаспадарчы суд Берасьцейскай вобласьці разгледзеў іхную справу і пацьвердзіў правы царкоўнага прыходу на гэтыя будынкі. Суд прызнаў, што дамы былі незаконна нацыяналізаваныя і цяпер падлягаюць вяртаньню. Складанасьць сытуацыі ў тым, што гэтыя дамы ўжо прыватызаваныя, таму Лунінецкі гарвыканкам прапанаваў кампэнсацыю, але гэтую прапанову вернікі адхілілі. Канчатковы лёс царкоўных дамоў вырашыць Лунінецкі народны суд.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Сьвятары дапамагаюць вайскоўцам

**На працягу чатырох гадзінаў праваслаўныя сьвятары выганялі нячысьціцаў з 5-павярховага дома ў вайсковым гарадку Берасьця.**

На думку жыхароў, сваркі і разлады паміж суседзямі, беспрычынныя сьмерці і самагубствы ў доме сталі залішне частымі. Кажуць, «энэргетыка» у гэтым доме цяпер палепшаецца. Дай Бог!

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Ура магілёўскім кантралёрам!

**Газэта «Магілёўскія ведамасьці» з гонарам паведаміла, што кіраўнік прэзыдэнцкай Службы кантролю В.Далгалёў назваў Магілёўскую кантрольную службу лідарам па выніках работы за мінулы год.**

Як прыклад згадваецца акцыя магілёўскіх кантралёраў па праверцы выкарыстаньня службовага транспарту. Тады на два выходныя дні былі цалкам перакрытыя ўсе ўезды і выезды з абласнога цэнтру.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Кажуць, міліцыю „пачысьцілі“

**Як паведамілі на калегіі Ўправы ўнутраных справаў Магілёўшчыны начальнік абласной міліцыі Мікалай Лапацік, летась 6 міліцыянтаў былі асуджаныя, 125 пазбыліся пагонаў.**

Усяго пакаралі 703-х супрацоўнікаў міліцыі.

**Зінаіда ЛАРЫНА**

## Усім далі па купюры

**Жыхары Дывінскага сельсавету Кобрыньскага раёну атрымалі па 5 тыс. рублёў прэзыдэнцкай дапамогі.**

Пакрыўджаных не было, бо ўсім далі прыблізна пароўну.

**К.В.**

## Нашэсьце шалёных сабак

**За мінулы год у Столінскі раённы цэнтар гігіены і эпідэміялёгіі зьвярнуліся 147 чалавек, пакусаных сабакамі.**

Бальшыня — дзеці, якія, натуральна, прывялі бацькі. Ажно 42-х пацыентаў пакінулі на стацыянарнае лячэньне на 7—10 дзён. На шчасьце, выпадкаў шаленства, ад якога чалавек памірае, у раёне не было. Але небясьпека застаецца, бо па Століне і раёне гойсаюць цэлыя зграі беспрытульных сабак. Знайсьці ж каго-небудзь, хто стала заняўся б адловам бадзяжных сабакаў, улады ня могуць, бо няма ахвотнікаў на такую працу.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## Віцебская спэцбрыгада

**За мінулы год толькі ў Віцебску было выяўлена 500 трупаў, а па ўсей вобласьці — утрая больш.**

«Эпідэмія на нябожчыкаў» вымусіла мясцовыя ўлады стварыць «пахавальную каманду». Гэтая спэцгрупа, якая складаецца зь некалькіх зьменных кіроўцаў і санітараў, займаецца зборам і перавозкай загінулых ці памёрлых на спэцыяльна абсталяваным аўтамабілі. Дагэтуль нябожчыкаў вазілі на службовых машынах міліцыянты, кладучы целы сабе на калені.

**Уладзімер СЯРГУН**

## Намэнклятура перасела з райкамаў у банкі

**Намесьнік старшыні Лідзкага райвыканкаму Іван Васілевіч перабраўся на пасаду кіраўніка раённага аддзяленьня Ашчаднага банку.**

Ёсьць чаму дзівіцца, бо па спэцыяльнасьці ён — настаўнік. Аднак намэнклятуршчыкі пратапталі сьцежку ў банкі яшчэ да яго. Былы другі сакратар Лідзкага гаркаму КПБ Віктар Міранцоў утульна ўладкаваўся на кіраўнічую пасаду ў «Прыорбанку». Нядаўна намесьніца старшыні гарвыканкаму Тамара Язэпава ўзначаліла філію «Комплекс-банку».

У суседнім Наваградку тая ж гісторыя. Колішні першы сакратар тамтэйшага гаркаму партыі камуністаў Уладзімер Кулік кіруе аддзяленьнем «Прыорбанку». Ды і ў іншых райцэнтрах сытуацыя падобная. Камуністы добра засвоілі ленінскае вучэньне: найперш браць банкі...

**С.ВАЛОШКА**

*Ліст у рэдакцыю*

## У Клецку жывуць па-савецку

У нашым горадзе Клецку, як і раней, уладараць бюракраты камуністычнага паходжаньня. Былыя сябры Кебіча вельмі хутка сталі сябрамі Лукашэнкі і ўсе да аднаго засталіся на сваіх пасадах, а народ церпіць, чакаючы ад іх дапамогі.

Раённая газэта друкуе артыкулы з камуністычнымі заклікамі супраць БНФ і ўсіх «нацыяналістаў» Эўропы ды Беларусі. Успамінаюць і Шушкевіча, які з «двума зубрамі» разваліў Савецкі Саюз.

Калгасы як называліся, так і называюцца: «Сцяг Саветаў», «Шлях да камунізму» і г.д.

Цэны вышэйшыя, чым у Менску, а белы хлеб пякуць з такога цеста, што нават сьвіньні ня хочуць есьці.

Апошняя навіна: Клецкая швейная фабрыка адсьвяткавала сваё 50-годзьдзе. Яна супрацоўнічае з галяндзкай фірмаю «Эран», якая пастаўляе ў Клецак свае тканіны і замаўляе курткі для Амстэрдама і некаторых краінаў Эўропы — Францыі, Італіі, Гішпаніі, Нямеччыны, Бэльгіі...

Народ пытаецца: як гэта дырэктару фабрыкі Сакалоўскаму ўдаецца апрануць у гэтыя курткі ўсіх сваякоў і знаёмых, няўжо за кошт галяндцаў?

**Алег НІКУЛІН**









Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 24.1.95. Надрукавана ў Аршанскай друкарні.



Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая. Наклад 60 000

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12